Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
9 лістапада 2001 г.
№ 45 (541)
Кошт 130 рублёў

## Цягнікі адпраўляцца з Аўльса

12,13 і 14 лістапада дзённыя цягнікі з Гродна на Брэст і Баранавічы будуць адпраўляцца не з чыгуначнага вакзала, а са станцыі «Аульс». Звязана гэта з капітальным рамонтам пуцей у межах Гродна. У гэтыя ж дні цягнік «Гродна-Ліда», які адыходзіў з Гродна ў 12.38, будзе курсаваць толькі па маршруце «Ліда-Масты-Ліда». Закрыты для аўтамабільнага праезду будзе таксама і чыгуначны пераезд па Азёрскай шашы.

Пасажырам цягнікоў «Гродна-Брэст» і «Гродна-Баранавічы» не абавязкова дабірацца на станцыю «Аульс» уласнымі намаганнямі. Ад прывакзальнай плошчы на «Аульс» будуць курсаваць два аўтобусы, аплочаныя чыгуначнікамі. Адпраўляцца аўтобусы будуць у 12.00, 12.15, 13.00, 13.20.

Як паведамілі ПАГОНІ ў кіраўніцтве чыгуначнага вакзала, нязручнасці гараджанам штодня давядзецца трываць прыблізна з 9.00 да 18.00. Рабочыя пуцявой машыннай станцыі «Баранавічы», што праводзяць рамонтныя работы, будуць заканчваць працу ўвечары. Таму вечаровыя цягнікі пойдуць ужо са станцыі «Гродна».

**Павал Мажэйка**

## «Баторыя» змяняе графік працы з 15-га

Крама «Баторыя», што на плошчы Савецкай, пяройдзе на дзённы рэжым працы з 15 лістапада, а не з пачатку месяца, як планавалася раней.

Нагадаем, што рашэнне аб спыненні гандлю было вынесена Гарадзенскім гарвыканкамам пасля скаргі жыхароў дома, у якім месціцца крама. Жыхары наракалі на шум і небяспечную крымінагенную сітуацыю каля свайго дома.

З 15 лістапада крама будзе працаваць з 7.00 да 24.30.

**Ул. інф.**

## Павялічваецца кошт талончыкаў

Да пачатку снежня па Беларусі прыкладна на 30 працэнтаў будуць павялічаныя кошты на праезд у гарадскім транспарце. Цяпер адна паездка для гараджанаў будзе каштаваць 80 рублёў замест ранейшых 60-ці, адпаведна цана ільготнага талончыка падвысіцца з 30 рублёў да 40. Пытанне зараз у тым, калі дадзенае рашэнне зацвердзіць гарадзенскі аблвыканкам.

Аднак павелічэнне кошту праезду не адыграе істотнай ролі на кепскім фінансавым стане гарадзенскага прадпрыемства «Гроднааблаўтатранс». Бо, як адзначыў ПАГОНІ адзін з кіраўнікоў гэтага прадпрыемства, ужо на сённяшні дзень сабекошт аднаго пасажыра, які карыстаецца паслугамі гарадскога транспарта, абыходзіцца для «Гроднааўтатранса» ў 200 рублёў.

Варта нагадаць, што апошні рост кошту талончыкаў датуецца ажно 20 студзеня гэтага года.

**Захар Штрэна**

## НАДВОРЕ

9 лістапада ўначы - дажджы, вецер усходні, месцамі - паўднёва-заходні, 4-10 м/с, удзень - воблачна, дажджы, з праясненнямі пад вечар; тэмпература паветра ўночы +4...+6, удзень +5...+7. 10 лістапада - воблачна, ападкі, месцамі - снег, вецер заходні, паўднёва-заходні, 4-7 м/с; тэмпература паветра ўночы +1...+3, удзень 0...+2.

# За Пашкевіча будзе адказваць Антоненка

2-га лістапада пазачарговая сесія Гарадзенскага гарадскога савета дэпутатаў паставіла кропку ў зацягненым гарадзенскім бязмэр'і. Новым старшынём гарвыканкама стаў загадчык фінансавага аддзела гэтай установы Аляксандр Антоненка. Аднак галоўным героем сесіі стаўся ўсё-ткі Пашкевіч.

*- Па Гродне ходзіць шмат легендаў: чаму, як і навошта адышоў з пасады старшыні гарвыканкама Анатоль Пашкевіч. Карыстаючыся тым, што тут прысутнічаюць дырэктары, я б хацеў, каб вы давялі да ведама калектываў прадпрыемстваў, што чуткі ды інсінуацыі рознага кшталту не маюць пад сабою ніякіх падставаў. Анатоль Міхайлавіч сам захацеў адысці,* - гэтымі словамі старшыня аблвыканкама Уладзімір Саўчанка паведаміў «партгасактыву» горада, што канфлікт паміж ім і звольненым паўтара месяца таму з пасады старшыні гарвыканкама Анатолем Пашкевічам вычарпаны.

Усе астатнія прамоўцы, што выступілі на сесіі гарсавета, атрымаўшы вышэйшую санкцыю, скарысталіся шанцам паказаць сябе прыстойнымі людзьмі. Словы ўдзячнасці на адрас «любімого» і «глубокоуважаемого» Анатоля Міхайлавіча пасыпаліся як з парнага меха...

Сам Пашкевіч узяў слова напрыканцы мерапрыемства. Падзякаваўшы Саўчанку за шчырыя словы на свой адрас, ён, у прыватнасці, сказаў:

*- Шмат хто проста не ведае, што ў нас напрыканцы ліпеня адбылася размова, дзе я звярнуўся з просьбай па магчымасці падшукаць мне працу для пераводу. Як сапраўды, выбачайце за такі выраз, мужчына, як кіраўнік, ён проста па-людску сказаў: «Анатоль Міхайлавіч, яшчэ пару месяцаў адпрацуем, а потым нешта будзем вырашаць». Шмат хто ў гэтым горадзе хацеў бы запусціць чорную кошку паміж мною і Уладзімірам Ягоравічам - не атрымаецца. Мы гэтую кошку з ім расстраляем, таму што, напраўду, мы зрабілі па-мужчынску.*

Верагодна, самому Пашкевічу падобнае тлумачэнне адаецца вельмі праўдападобным. Аднак у ім няма адказу на пытанне: чаму Саўчанка, ведаючы пра намер Пашкевіча пакінуць пасаду старшыні гарвыканкама яшчэ напрыканцы ліпеня, зацягнуў з падборам кандыдатуры на гэтае месца ажно да лістапада?

Такі сур'ёзны кадравы голад можа тлумачыцца толькі трагічнай сітуацыяй, якая склалася ў гарадской гаспадарцы. Пра яе, дарэчы, у сваім першым выступленні ў якасці старшыні гарвыканкама расказаў Аляксандр Антоненка:

*- Магу сказаць, а я працаваў фінансістам, грошай сапраўды мала. Наш бюджэт вельмі бедны, і ў 2002 годзе, я думаю, ён не павялічыцца. Мяркуючы па прагнозах - наадварот, зменшыцца недзе на 30 працэнтаў... Мы цудоўна навучыліся траціць, зараз давядзецца навучыцца зарабляць... Дзе толькі можна, будзем шукаць рэсурсы і закрываць тыя дзіры, якія ў нас ёсць...*

Перспектыва ў новага старшыні, трэба сказаць, як у камікадзэ. Што ж, будзем лічыць, што менавіта з гэтай прычыны папрасіўся ў адстаўку Пашкевіч. А ўсе падумалі, што ў Анатоля Міхайлавіча канфлікт з Уладзімірам Ягоравічам...

**Анджэй Пісальнік**

P.S. Анатоль Пашкевіч стаў героем дня яшчэ на адным пасяджэнні. Гэтым разам - на сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з грамадскасцю вобласці, што адбылася шостага лістапада, падчас візіту «ўсенароднаабранага» на Гарадзеншчыну. Больш падрабязна пра гэтую падзею чытайце на стар. 2.



Новы старшыня Гарадзенскага гарвыканкама Аляксандр Ільіч Антоненка

Нарадзіўся ў 1953 годзе ў г.Слаўгарадзе Магілёўскай вобласці, беларус, адукацыя вышэйшая.

З 1971 па 1973 год служыў ва Узброеных сілах. Пасля дэмабілізацыі працаваў у будаўнічым упраўленні горада Ленінграда. З 1974 па 1979 год вучыўся ў Ленінградскім фінансава-эканамічным інстытуце.

Пасля заканчэння вучобы працаваў майстрам. Старшым майстрам, начальнікам аддзела працы і заробнай платы ў Гарадзенскім вытворчым аб'яднанні па выпуску тэхаснасткі.

З 1986 па 1990 год - інструктар гаркама, абкама партыі, кансультант сацыяльна-эканамічнага аддзела АК КПБ.

З 1990 года працаваў намеснікам начальніка, начальнікам падатковай інспекцыі горада Гродна, начальнікам інспекцыі Дзяржаўнай падатковай камісіі па Гарадзенскай вобласці. З 2000 года па сённяшні час - загадчык фінансавага аддзела Гарадзенскага гарвыканкама.

Жанаты. Мае дачку і сына.

## Ранішнік у «Калізеі»

У суботу а 14-й гадзіне ў клубе «Калізей-2000» адбудзецца дабрачынны ранішнік-дыскатэка для дзяцей.

Імпрэзу ладзіць гарадзенская арганізацыя шматдзетных мацірок «Крыніца міласэрднасці». Канцэртную праграму бярэ на сябе артыстычная моладзь з вучэльні мастацтваў. Для дзетак са шматдзетных і няпоўных сем'яў і Дзяцячага дома ў «Калізеі» падрыхтоўваюцца песні, танцы, конкурсы і віктарыны з сюрпрызамі ды падарункамі.

**Алена Сіневіч**

## Забілі пенсіянераў

Зверскае забойства двух пенсіянераў было ўчынена 5-га лістапада ў вёсцы Акмянеі Ашмянскага раёна.

Трупы 73- і 75-гадовых мужа і жонкі знайшлі ў іх уласным доме. На тварах старых былі шматлікія крывападцёкі ды сінякі.

Асабовы склад Ашмянскай міліцыі быў падняты па трывозе. Аднак злачынцаў, якія скралі зберажэнні пенсіянераў у валюце і золаце, знайсці не ўдалося. Як паведаміў ПАГОНІ пракурор раёна Уладзімір Бутрым, расследаванне забойства знаходзіцца ў пачатковай стадыі, а таму пра версіі ды падазроных казаць рана.

*- Забойства, падобнага гэтаму, у раёне не ўчынялася, прынамсі, на працягу апошніх дзесяці гадоў,* - заявіў Уладзімір Бутрым. *- Падобнае злачынства было здзейснена некалькі месяцаў таму на хутары ў суседнім Смаргонскім раёне. Яно таксама пакуль не раскрыта. Аднак падставаў звязваць гэтыя два здарэнні паміж сабою няма.*

## Госць з Казлоў

Бойкай адзначыў дзень бальшавіцкага перавароту гарадзенец і жыхар вёскі Казлы Бераставіцкага раёна.

Пасля некалькіх святочных тостаў раней судзімы госць з Казлоў за нешта пакрыўдзіўся на гаспадара кватэры па вуліцы Кабяка ў Гродне, дзе ладзілася застолле, і нанёс сабутыльніку ўдар нажом. Пацярпелы апынуўся ў шпіталі, а той, хто з Казлоў, - за кратамі.

**ПАТ**



# Фэст памяці герояў-паўстанцаў

**3 лістапада гарадзенцы прынялі ўдзел у традыцыйным Усебеларускім фэсце памяці герояў паўстання 1863-64 гадоў. Гэтая імпрэза ладзіцца штогод на Свіслаччыне сябрамі гарадзенскай філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады разам са свіслацкай грамадскай арганізацыяй «Таварыства памяці імя братоў Каліноўскіх».**

Сёлетняе мерапрыемства не было такім шматлюдным, як у мінулым годзе. На радзіму братоў Каліноўскіх прыехала каля сотні чалавек з Гродна, Бераставіцы, Свіслачы, Зэльвы ды іншых беларускіх гарадоў.

Першым пунктам маршруту сталі Свіслацкія могілкі, дзе знаходзіцца адшуканая пяць гадоў таму мясцовымі краязнаўцамі магіла Віктара Каліноўскага, ідэйнага натхняльніка паўстання. Затым удзельнікі фэсту ўсклалі кветкі да помнікаў Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту.

У Якушоўцы, дзе захаваліся яшчэ рэшткі сядзібы сям'і Каліноўскіх, дзесяць сябраў Гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту прынялі прысягу. Дзіма Міхалюк абапіраўся на мыліцы - нядаўна ён патрапіў у аварыю і на прысягу прыехаў фактычна з бальнічнага ложка.

- З гэтага імгнення і да самай смерці прысягаю верна служыць справе адраджэння Беларускай Нацыі, - зачытваў словы прысягі старшыня МФ Вадзім Саранчукоў.

- Калі ж у думках ці на справе зракуся я словаў гэтых - няхай спасцігне мяне справядлівы гнеў Боскі ды пагарда маіх сяброў! - паўтаралі за сваім старшынём маладафронтаўцы.

Вадзім Саранчукоў выдаў «навабранцам» пасведчанні сябраў арганізацыі, зробленыя адмыслова да мерапрыемства. Затым усе скіраваліся на маляўнічую паляну Белавежскай пушчы, дзе адбыўся канцэрт з удзелам хору «Бацькаўшчына» і бардаў Андрэя Мельнікава, Віктара Шалкевіча і Валерыя Жамойціна.

**Юлія Дарашкевіч**

**На здымку: удзельнікі фэсту на магіле Віктара Каліноўскага ў Свіслачы**

# Дзяды прайшлі спакойна

**2-га лістапада на Дзяды актывісты гарадзенскіх арганізацыяў Маладога Фронту і БНФ «Адраджэньне» ўшанавалі памяць выбітных асобаў, чые імёны і лёсы былі звязаныя з Гродна і Беларуссю.**

Зранку былі ўскладзеныя кветкі на агульнагарадскіх, вайсковых і старых каталіцкіх могілках. Вечаровая ўрачыстасць распачалася запальваннем знічак ля помніка Адаму Міцкевічу.

Ушанавальныя знічкі засталіся гарэць таксама ля мемарыяльнай дошкі Рыгору Шырму, ля музея Максіма Багдановіча, помнікаў Элізе Ажэшцы, Янку Купалу.

Апошнім пунктам маршруту стала мемарыяльная дошка, усталяваная на будынку гарадскога чыгуначнага вакзала ў гонар памяці паўстанцаў Каліноўскага.

Сёлетнія Дзяды ў Гродне, у адрозненне ад мінулагодніх, прайшлі «без удзелу» міліцыі.

**Павал Мажэйка**



# Лукашэнка ў Гродне

## Пакуль абышлося без ахвяраў

**У мінулы аўторак кіраўнік краіны наведаў Гарадзенскае вытворчае аб'яднанне «Азот» і правёў нараду з вертыкальна-гаспадарчым актывам вобласці ў аблвыканкаме. Асноўныя праблемы, якія хвалявалі Аляксандра Лукашэнку падчас візіту ў наш горад, - гэта падзенне аб'ёму экспарту, рост стратнасці прадпрыемстваў, зніжэнне тэмпаў прамысловай вытворчасці ва ўладных і кантралюючых органах Гарадзеншчыны.**

### Няма шчасця ў калгасах

Афіцыйнай нагодай для наведвання прэзідэнтам флагмана хімічнай прамысловасці рэгіёна - вытворчага аб'яднання «Азот», стала рэзкае падзенне на прадпрыемстве аб'ёмаў экспарту, рост запазычанасці і зніжэнне да нуля рэнтабельнасці аб'яднання. Аднак, калі прасачыць апошнія візіты галавы дзяржавы ў рэгіёны краіны, становіцца відавочным, што Лукашэнка здзяйсняе тур па прадпрыемствах, набыццём якіх актыўна цікавяцца расейскія нафтагазавыя кампаніі. Менавіта таму, наведваючы на мінулым тыдні Віцебшчыну, кіраўнік краіны праігнараваў абласны цэнтр і паехаў у Наваполацк - горад двух нафтахімічных гігантаў - «Нафтана» і «Паліміра». З гэтай жа прычыны перспектывы магчымага акцыянавання «Азота» не маглі стаць незакранутымі падчас сустрэчы Лукашэнкі з гарадзенскімі хімікамі.

- Што тычыцца перспектывы вашага завода, - гэта дзяржаўнае прадпрыемства, - безапеляцыйна заявіў Аляксандр Лукашэнка, пачынаючы размову. Але ці то недаверлівы бляск у вачах працоўных, ці то ўсведамленне таго, што «грэх не схаваеш у мех», змусіла кіраўніка дзяржавы прызнаць, што акцыянаванне ўсё ж магчымае, калі знойдзецца «добры інвестар».

- Гэта будзе, хутчэй за ўсё, прадпрыемства, якое мае газ, - прызнаўся Лукашэнка і дадаў, што дзяржаўны пакет акцыяў у бліжэйшыя гады застанецца ў руках дзяржавы.

Неабходнасць дзяржаўнага кантролю за прадпрыемствам Аляксандр Лукашэнка патлумачыў тым, што ў адваротным выпадку «яно можа апынуцца ў руках нядобрасумленных людзей». Пад «нядобрасумленнасцю» падразумявалася, напэўна, тое, што яны маглі б адмовіцца ад субсідавання мінеральнымі ўгнаеннямі «свяшчэннай каровы» Беларускай эканомікі - хранічна неплацежаздольных калгасаў і саўгасаў.

- Запомніце раз і назаўсёды, што сваё шчасце ў сельскай гаспадарцы Беларусі вы не знойдзеце, - папярэдзіў беларускі лідар нараканні на нявыгадныя для «Азота» адпускныя цэны для ўнутранага спажыўца мінеральных угнаенняў і параіў шукаць шчасця на знешніх рынках.

На жаль, прысутнасць «Азота» на знешніх рынках у апошнія гады становіцца ўсё праблематычней. На гэта ўплываюць недапушчальныя для хімічнага прадпрыемства знос асноўных фондаў, павышаная затратнасць вытворчасці і падзенне сусветных коштаў на капралактам. Плюс нераўнамерны (на працягу першага паўгоддзя толькі на ўнутраным рынку) продаж угнаенняў. З-за чаго неатрыманы даход ад іх экспарту складае да пяці мільёнаў даляраў у год.

Пералічаныя фактары прывялі да таго, што сёлета рэнтабельнасць прадпрыемства скарацілася да нуля,а адмоўны баланс склаў 6,1 мільярда рублёў.

Аляксандр Лукашэнка ўспрыняў падобныя апраўданні як неаб'ектыўныя. Ён нагадаў, што дзяржава робіць усё магчымае, каб падтрымаць прадпрыемства. З першага кастрычніка да канца года, напрыклад, «Азот» атрымаў права купляць газ, які складае 80 працэнтаў ад аб'ёму ўсёй сыравіны, што выкарыстоўвае завод па кошту 20 даляраў за тысячу кубаметраў. Пры тым, што па рэспубліцы яго кошт складае 57 даляраў за тысячу кубоў. Уражваючы абываценя аб'ём прэферэнцыяў дазволіў Лукашэнку заявіць пра неабходнасць праверкі рацыянальнага расходавання сродкаў камітэтам Дзяржкантролю. «Але ратуй вас Бог, калі мы знойдзем тое, што мы знайшлі некалі на МТЗ. Па кіраўніцтву МТЗ мы ўзбудзілі 16 крымінальных справаў», - страшыў Лукашэнка дырэктара «Азота» Валерыя Лангова.

### Застанецеся без грошай

Ад уражанняў, атрыманых пры наведванні «Азота», Лукашэнка не мог пазбыцца і падчас нарады ў аблвыканкаме. Прызнаўшы, што па большасці паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Гарадзеншчына на фоне астатніх рэгіёнаў «глядзіцца прыстойна», ён засяродзіў увагу вертыкалі на правальнай сітуацыі з экспартам.

- Экспарт - гэта ж валюта, - нагадаў Лукашэнка. - Толькі 6,5 працэнта экспарту па ўсёй краіне дае Гарадзеншчына. Замест прагназаванага прыросту экспарту ён нават зменшыўся, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, больш як на чатыры працэнты. Вы апынецеся перад фактам адсутнасці грошай!

Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што акрамя «Азота», які дае траціну экспарту па ўсёй вобласці, знізілі аб'ёмы знешняга гандлю і іншыя, некалі перспектыўныя, прадпрыемствы - «Лакафарба», «Лідсельмаш» ды іншыя.

Пакрытыкаваўшы для «парадку» безгаспадарчасць кіраўнікоў, галава дзяржавы зрабіў спробу лабіравання інтарэсаў канкурэнта Гарадзенскай тытунёвай фабрыкі - Менскага сумеснага прадпрыемства «Тытуньінвест». Кажуць, быццам адным з акцыянераў гэтага прадпрыемства з'яўляецца сын Аляксандра Рыгоравіча. Магчыма, таму прэзідэнт так назойліва рэкамендаваў Гарадзенскай «табачцы» карыстацца паслугамі «Тытуньінвеста»:

- За гэты год на тытунёвай фабрыцы «Нёман» замоўлена тытунёвая сумесь у колькасці 326,5 тоны на суму 1 мільён 167 тысяч даляраў ЗША. У той жа час такую сумесь можна замовіць на самым сучасным абсталяванні ў Менску, што будзе на 30 працэнтаў танней і не за валюту. Аналагічна - з ацэтатавымі фільтрамі для цыгарэтаў. У гэтым годзе іх пастаўлена з-за мяжы на суму мільярд рублёў. У той жа час, у Менску ёсць лішнія магутнасці па вытворчасці такіх фільтраў. Неабходнасць тытунёвай сыравіны для вытворчасці аднаго мільёна цыгарэтаў складае на «Нёмане» ад 950 да 1227 кілаграмаў, а на СП «Тытуньінвест» у Менску - 775 кілаграмаў. Усё гэта вядзе да зніжэння рэнтабельнасці прадпрыемства і зніжэння канкурэнтаздольнасці прадукцыі. Я мяркую, што кіраўніцтва ўнясе канкрэтныя прапановы: надта ж шмат мы займаемся гэтай тытунёвай фабрыкай.

Кіраўнік дзяржавы, відаць, забыўся, што мог бы пазбыцца ад такіх турботаў, каб некалькі гадоў таму пагадзіўся пусціць на Гарадзенскую фабрыку замежны капітал. Напрыклад, сусветнавядомую кампанію «Філіп Морыс»...

Не спадабалася Лукашэнку і тое, што на Гарадзеншчыне вырасла колькасць стратных прадпрыемстваў з 20 ў мінулым да 30 працэнтаў у гэтым годзе. Ён заклікаў таксама ліквідаваць самую высокую ў краіне запазычанасць па заробку, якая на 5 лістапада склала тры мільёны даляраў.

### Я не называю прозвішчаў

Тэма карупцыі і злоўжывання з боку дзяржчыноўнікаў, якая стала апошнім часам моднай, не пакінула абыякавым і Лукашэнку.

- Толькі ў гэтым годзе на Гарадзеншчыне ўзбуджана 38 крымінальных справаў. Ужо асуджана 28 чалавек, у ліку якіх 17 - супрацоўнікі праваахоўных органаў, - сыпаў лічбамі з трыбуны галоўны змагар з крадзяжамі рынкава-сацыялістычнай уласнасці. - Да крымінальнай адказнасці прыцягнуты начальнік Гарадзенскай рэгіянальнай мытні Пракопчык, прарэктар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэтаКівач, загадчык кафедры Гарадзенскага медуніверсітэта Конкаль.., - падаграваў атмасферу ў зале галоўны выкрывальнік.

- Найбольшая колькасць супрацьпраўных дзеянняў ўчыняецца супрацоўнікамі кантрольных органаў, ВНУ, структураў выканкамаў, што размяркоўваюць жыллё і зямельныя ўчасткі.., - дэманстраваў аналітычныя здольнасці кіраўнік дзяржавы.

Падагрэўшы такім чынам атмасферу, Лукашэнка правёў эксперымент, вядомы ў народзе пад назвай «на злодзеі і шапка гарыць».

- Я не называю прозвішчаў, - папярэдзіў кіраўнік дзяржавы і распавёў пра тое, што нядаўна ўдалося пазбыцца ад аднаго чыноўніка, які валодае некалькімі кватэрамі і дзеці якога, выходзячы замуж, таксама адразу атрымоўваюць кватэры.

У гэтага чыноўніка, паводле словаў Лукашэнкі, ёсць некалькі аўтамабіляў і ўвогуле куча грошай. «Я не называю прозвішчаў», - нагадаў Лукашэнка, захоўваючы чысціню эксперымента з дакладнасцю Дэвіда Каперфілда.

І тут... спрацавала!.. Намёкаў не вытрымаў дырэктар «Гроднахлебпрама» Анатоль Пашкевіч. Ён падняўся і заявіў, што калі прэзідэнт меў на ўвазе яго, дык усё гэта няпраўда, а ўся інфармацыя, што мае кіраўнік дзяржавы, - спрэс нагаворы. Падкрэсліваючы паспяховае завяршэнне эксперымента, Лукашэнка нагадаў прысутным: «Я ж не называў прозвішчаў». Па існасці ж пярэчанняў Пашкевіча Аляксандр Рыгоравіч паабяцаў, што даручыць Шэйману яшчэ раз праверыць факты, якія ёсць па справе былога старшыні Гарадзенскага гарвыканкама.

### А ў той час у горадзе

Як заўсёды, у дзень знаходжання Аляксандра Лукашэнкі ў Гродне жыхары горада на чым свет стаяў клялі ўзніклыя з-за праезду картэжа Лукашэнкі аўтамабільныя заторы, перапоўненыя аўтобусы ды іншыя наступствы ізаляцыі першай асобы ад «любящего электората». Многія крамы ў цэнтры горада, відаць, ад граху падалей, у гэты дзень былі зачыненыя. А міліцыя праявіла максімум пільнасці пры ахове подступаў да Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. На думку ПАГОНІ, перамогу ў намінацыі «Лучше перебдеть, чем недобдеть» маглі б атрымаць у гэты дзень супрацоўнікі Ленінскага РАУС, якім удалося затрымаць і суправадзіць у міліцэйскі пастарунак лідара Гарадзенскага Маладога Фронту Вадзіма Саранчукова. Паводле версіі дзяжурнага Ленінскага РАУС - за тое, што Вадзім быццам засмечваў тэрыторыю вакол Гарадзенскага аблвыканкама недапалкамі цыгарэтаў! Адпаведна словам самога затрыманага, ён проста стаяў на выхадзе з аблвыканкамаўскай сталоўкі, дзе толькі што паабедаў і назіраў за зладжанымі дзеяннямі вартавых правапарадку, якія ахоўвалі галоўны адміністрацыйны будынак горада.

**Анджэй Пісальнік**

# Ты хацеў 100 даляраў у месяц...

**Сярэдні налічаны заробак**

100,05$




1 жніўня

102,8$




1 верасня

98,8$




1 кастрычніка

Крыніца: Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь

# Дзе той заробак?

**Колькі было абяцанняў напярэдадні выбараў наконт павелічэння заробку да ста амерыканскіх даляраў! А дзе яны, тыя сто даляраў? Зараз, мабыць, і запытаць няма ў каго, ды і наўрад ці нехта адкажа.**

Паводле статыстычных дадзеных, заробак складае сто даляраў прыкладна ў 14,2 працэнта грамадзянаў. У асноўным гэта людзі, што працуюць у банкаўскай сферы, выкладчыкі ВНУ і тэхнікумаў, і яшчэ некалькі прафесіяў.

Менш за ўсіх зарабляюць работнікі мастацтва і культуры, іх сярэдняя заробная плата на сённяшні дзень не складае і 60 даляраў. Прыкладна такі ж заробак у работнікаў народнай гаспадаркі. І гэта пры тым, што Аляксандр Лукашэнка сам з калгаснікаў, і робіць на гэтую галіну вялікую стаўку.

У сярэднім у работнікаў сферы сацыяльнага забеспячэння зарплата складае 89 тысяч рублёў у месяц. Настаўнікі ў школах за выхаванне будучага нацыі атрымоўваюць не больш-не менш - у сярэднім, 82 тысячы рублёў.

На тле ўсіх астатніх даволі прыстойна выглядаюць прадстаўнікі рабочага класа жыллёвай гаспадаркі ды прамысловасці - 132 і 138 тысяч рублёў. Але ізноў, не хапае да соткі.

А калі ўзяць пад увагу тое, што цэны толькі за кастрычнік выраслі ў сярэднім на 4,2 працэнта, за верасень - на 1,9, за жнівень увогуле на 6,5 працэнта, а з пачатку года - больш як на 30 працэнтаў, то можна ўявіць, што стане з нашай зарплатай да канца года.

Зараз бачна тэндэнцыя змяншэння заробку за кошт павелічэння курсу ўсё таго ж даляра. За верасень у сувязі з гэтым заробная плата зменшылася на 1,8 працэнта. А тут яшчэ і злыя языкі прарочаць хуткае павелічэнне кошту даляра ад 30 да 50 працэнтаў.

Улада зараз падобная на малпачку перад люстэркам, якая малюецца і любуецца сваёй пысай. Яна прадаўжае пераконваць у сваёй фінансавай стабільнасці ды рынкавай арыентацыі.

**Аляксей Красоўкі**

# Дзяржкантроль канстатуе фіяска

**Агульная запазычанасць па заробках у Гарадзенскай вобласці складае 7 мільярдаў 379 мільёнаў рублёў па стану на 2-га лістапада 2001 года. Лічба - у некалькі разоў болей, у параўнанні з такім жа перыядам кастрычніка. Пра гэта паведаміла ПАГОНІ кіраўнік прэсслужбы камітэта Дзяржкантролю Кацярына Шрубейка, паводле матэрыялаў сваёй апошняй праверкі галінаў народнай гаспадаркі.**

83,5 працэнта запазычанасці прыпадае на доўг прадпрыемстваў сельскагаспадарчага комплексу перад сваімі работнікамі. 10 працэнтаў - на запазычанасць прадпрыемствам прамысловай галіны. І 6,5 працэнта - гэта астатнія галіны вытворчасці. Самыя вялікія завінавачанасці ў Ваўкавыскім, Воранаўскім, Мастоўскім, Ашмянскім і Лідскім раёнах.

Галоўнай прычынай даўгоў з'яўляецца адсутнасць уласных фінансавых сродкаў ды наяўнасць дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасцяў. У выніку грашовая выручка, якую калі-некалі атрымоўваюць ў калгасах і саўгасах, накіроўваецца, у першую чаргу, на завяршэнне сельскагаспадарчых работаў. А таксама на набыццё паліва ды разлік з банкамі за ўзятыя крэдыты...

Што тычыцца прамысловых прадпрыемстваў Гарадзеншчыны, то 50 працэнтаў ад агульнай сумы запазычанасці ў прамысловай галіне прыпадае на Мастоўскае ААТ «Мастыдрэў» ды ААТ «Ашмянскі завод радыётэхнікі».

Галоўнай прычынай завінавачанасці па заробках у галіне будаўніцтва з'яўляецца несвоечасовы разлік замоўцаў за выкананыя падрадчыкам работы. У тым ліку і па аб'ектах, якія фінансуюцца з бюджэту.

У сувязі з вялікай запазычанасцю па заробках амаль што ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі Камітэт Дзяржкантролю накіраваў ў раённыя і гарадскія выканаўчыя камітэты вобласці прапановы тэрмінова выправіць сітуацыю.

...Пакуль кіраўнікі прадпрыемстваў шукаюць шляхі пагашэння даўгоў па заробках, рабочыя ды іх сем'і вымушаныя галадаць.

**Алесь Зарэмбюк**

# Домаш вярнуўся

**У суботу ў Гродна з Кракава вярнуўся Сямён Домаш. Былы кандыдат у прэзідэнты прайшоў у гэтым польскім горадзе 4-дзённы курс лячэння. Стан Домаша значна палепшыўся, і праз пэўны час, як заяўляюць у ягоным бліжэйшым атачэнні, палітык актыўна ўлучыцца ў грамадскае жыццё Беларусі.**

У кардыялагічнай клініцы Кракаўскага Ягелонскага універсітэта, дзе абследаваўся Сямён Домаш, яму была зроблена ангеапластычная аперацыя сасудаў сэрца. Аперацыя праводзілася без хірургічнага ўмяшальніцтва і доўжылася тры гадзіны. Кіравалі лячэннем беларускага палітыка вядомыя польскія хірургі: доктар Легутка і загадчык аддзялення гематалогіі Кракаўскай клінікі, доктар Дудэк.

Сямён Домаш

Нагадаем, што праблемы са здароўем у былога кандыдата ў прэзідэнты пачаліся пасля перадвыбарнага запісу выступлення на БТ, калі ў тэлевізійнай студыі Домаш выпіў шклянку вады. У менскіх шпіталях Сямёну Домашу было прапанавана зрабіць аперацыю шунціравання на сэрцы. Аднак пасля курсу лячэння ў Кракаве стан здароўя Домаша медыкі ацэньваюць як здавальняючы, і хірургічнае ўмяшальніцтва, на думку спецыялістаў, цяпер не патрэбнае. Дактары, якія апекаваліся Домашам у Польшчы, прагназуюць, што ў хуткім часе стан здароўя былога кандыдата ў прэзідэнты будзе не горшым, чым перад злашчасным запісам на Беларускім тэлебачанні. На працу бягучага месяца Сямён Домаш пройдзе курс рэабілітацыі ў Гродне, пасля чаго запланаваны тэст «велатрэнажор», па выніках якога дактары прымуць рашэнне, ці патрэбна працягваць лячэнне.

Сам Сямён Домаш пакуль устрымліваецца ад кантактаў з прэсай. У бліжэйшым атачэнні Домаша аптымістычна глядзяць на далейшыя палітычныя намеры былога кандыдата ў прэзідэнты. Ацэньваючы іх, кіраўнік ягонага перадвыбарнага штаба **Аляксандр Мілінкевіч** заявіў:

- *...Домаш можа быць прыдатны, таму што ў рэгіёнах яго добра ведаюць. Ведаюць ягоныя здольнасці, ягоны арганізацыйны талент... Мы многае зможам зрабіць. А самае галоўнае - захаваць кааліцыю, якая ўтварылася не толькі ў Менску, але і ў вялікіх і нават вельмі маленькіх гарадах.*

**Павал Мажэйка**

# Маскоўскія блуканні барда Жамойціна

**Хто не памятае знакамітага афарызм савецкіх часоў «Масква слязам не верыць»? Нават фільм аднайменны тады знялі. Слязам яна сапраўды не верыць, але часам дае шанс падзарабіць правінцыялам з глухменяў колішняга СССР. Тры гады ў пошуках матэрыяльнага шчасця правёў у Маскве гарадзенскі бард Валерый Жамойцін. І вось ён за кубачкам кавы ў рэдакцыі ПАГОНІ распавядае пра свае нядаўнія маскоўскія блуканні.**

- ***Валера, няўжо ты паехаў у Маскву, каб зрабіць прафесій-*** [illegible] ***сваіх песень?***

- Касету песень я сапраўды збіраўся выпусціць яшчэ тры гады таму. Але ў Маскву паехаў з вельмі банальнай прычыны - крыху паправіць матэрыяльнае становішча. Нехта едзе на Захад, а я, маючы экстрэмальны характар, вырашыў рызыкнуць - пашукаць шчасця ў Маскве, бо і там працавітыя беларусы падзарабляюць.



Валерый Жамойцін

- ***Зразумела, там табе было не да музыкі, бо сам пошук працы вымотвае дашчэнту. Як ставяцца ў Маскве да «гастарбайтараў»?***

- «Гастарбайтары» ў расейскай сталіцы лічацца людзьмі трэцягачацвёртага гатунку. Бо сярод карэнных масквічоў ты - ніхто! Я маю некалькі прафесіяў за плячыма, але там даводзілася спачатку выконваць самую брудную працу. Улетку шчыраваў на будоўлях лецішчаў, а ўзімку давялося ў самім горадзе шукаць заробкаў. Я тры тыдні блукаў па розных фірмах, каб куды ўладкавацца. Але цярпенне і ўпартасць далі свой плён. Я патрапіў у прыватную фірму, якая арандавала памяшканні на вялікім заводзе. Працаваў, колькі меў моцы і здольнасцяў, знайшоў павагу і паразуменне сярод калег, а праз год ужо быў адным з самых высокааплочваемых працоўных. А пакольки ў фірме я быў адзіны каваль, дык мяне ведалі ўсе - ад дырэктара да вартаўніка.

- ***Тры гады знаходжання на чужыне - немалы тэрмін. Як табе жылося з маскалямі, як яны зараз ставяцца да беларусаў?***

- Вельмі добра. На побытавым узроўні рускія - спагадлівыя і чулыя людзі. І калі я чую ад асобных масцовых нацыянал-патрыётаў «Забі маскаля і будзе лепей!», дык у мяне крывіцца твар. Бо ад падобнага глупства лепей нікому не стане.

- ***Дык можа ты за аб'яднанне з Расеяй?***

- Не, канечне! Расея яшчэ ў савецкі час правяліла «нацыянальнае пытанне», і вырашыць яго ўжо, напэўна, не зможа. Расею зараз знутры раз'ядае карозія злачыннасці і карупцыі. І нават шэраговыя расіяне з гэтым самі пагадзіліся...

- ***Не будзем пра сумнае. Лепш раскажы, як бавіў вольны час, ці завязаў цікавыя знаёмствы?***

- Сябраваў з «чыстакроўнай» масквічкай, нават песню пра яе напісаў. Давялося пазнаёміцца і з сапраўднай «зоркай» эстрады - спеваком Іванам Маскоўскім. Ён - выканаўца ў стылі «рускі шансон», да нядаўняга часу быў прадзюсэрам вядомага Канстанціна Нікольскага.

- ***Дзе ты пазнаёміўся з Іванам Маскоўскім?***

- Зусім выпадкова, падчас працы на будоўлі лецішчаў. Ягоная маці папрасіла дапамагчы пацягаць дошкі ды яшчэ нешта падобнае. Разгаварыліся. Яна і пазнаёміла з сынам. Яны дапамаглі мне з жыллём у Маскве, паказалі горад. Іван Маскоўскі часта браў мяне на канцэрты ў клубы, паказваў, як выглядае тамтэйшая багема, вядомыя артысты. Я зблізу бачыў і чуў жывуцом Уладзіміра Асмолава, Андрэя Макарэвіча, Аляксандра Новікава ды іншых «шансонаў».

Аднойчы мы з Маскоўскім ехалі пасля ягонага канцэрту з начнога клуба на таксоўцы. Дык ён, відаць, дзеля прыколу, загадаў кіроўцу праехацца па тамтэйшай славутай «вуліцы чырвоных ліхтароў» - Цвярской. Затым, пабачыўшы знаёмага сутэнёра, запыніў таксоўку і завёў з ім гутарку. Сутэнёр скардзіўся на сваё незайздроснае існаванне. Маўляў, цяпер тамтэйшыя кліенты збяднелі, мала замаўляюць дзяўчат. Ён падумаў, што я - новы кліент, і адразу прапанаваў на выбар шэсць-восем дзяўчатак да 20-ці гадоў, якія спрытна пачалі паказваць ва ўсіх ракурсах свае прывабнасці. Сярод іх аказаліся дзве путаны з Беларусі. Дык яны, даведаўшыся, што я зямляк, адразу прапанавалі скідку за свае паслугі. Мы з калегам пажартавалі з такога сэрвісу і паехалі піць піва на Патрыяршыя пруды...

- ***Ці пісаліся табе песні ў Маскве? Можа, зважаючы на больш высокія, чым на Радзіме заробкі, хацелася там застацца?***

- Песні крыху пісаліся. Напрыклад, «Пра дворніка Франака», «Імчыць электрычка», «Музыкант у пераходзе метро», «Масквічка Вольга». Заставацца ў чужой, вялізнай і тлумнай Маскве я ніколі не планаваў. Заўсёды цягнула ў родныя мясціны. І я вярнуўся!

**Гутарыў Людвік Сарока**

# Касцёл бернардзінцаў:

## Францішак Грынкевіч і беларускі каталіцкі рух



**Ксёндз Францішак Грынкевіч (у цэнтры) сярод сябраў Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі**

**Вандроўка ў пошуку беларускіх адрасоў зноў прывяла нас да касцёла. Менавіта тут, у касцёле бернардзінцаў, у цеснай кватэрцы ксяндза Францішка Грынкевіча восенню 1909 года адбыўся першы арганізацыйны сход Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі. Акрамя гэтага, кожную нядзельную рапіцу ў касцёле была служба для каталіцкай моладзі гарадзенскіх школаў. Падчас яе пяяў хор, да якога належаў шмат хто з сябраў гуртка.**

Сёння для большасці жыхароў Гародні слова «каталік» гучыць як сінонім польскасці. Таму можа падавацца дзіўным, што стагоддзе таму мясцовы беларускі нацыянальны рух нараджаўся ў цеснай сувязі з каталіцкай царквою. Менавіта беларускія ксяндзы аднымі з першых пачалі размаўляць з народам на ягонай мове, бо лічылі, што для беларускага селяніна гэта і ёсць найкарацейшы шлях да Бога. Адначасова з місіянскай працай прыходзіла разуменне, што і яны самі з'яўляюцца часткай таго ж народа. На жаль, беларускі каталіцкі рух з яго нацыянальнай ідэалогіяй меў вельмі абмежаваную сферу дзейнасці. Праваслаўным асяроддзем ён успрымаўся ў якасці «польскай інтрыгі», тады як мясцовыя ксяндзы ў большасці былі польскімі патрыётамі і ставіліся да беларускага каталіцкага руху варожа, як да непажаданага канкурэнта.

Паводле Адама Станкевіча, «на працягу 5-6 гадоў (1909-1914) асоба кс.Грынкевіча ў Гародні была асобай цэнтральнай і адзінай, якая будзіла і арганізавала там рух беларускі». Постаць ксяндза Ф.Грынкевіча яшчэ чакае свайго даследчыка. Аднак нават агульнае знаёмства з ягоным жыццёвым шляхам малюе вобраз неардынарнага чалавека, не пазбаўленага, аднак, унутранай супярэчлівасці. Паходзіў ён з сялянскай сям'і, з Сакольшчыны і пачатковую адукацыю атрымаў у Навадворскай народнай школе. Пазней, пасля заканчэння Гарадзенскай гімназіі, вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. З верасня 1906 года Францішак прадоўжыў навучанне за свой кошт у Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Пасвечаны ў святары ў 1907 годзе. Слухач універсітэтаў у Інсбруку і Мюнхене ў 1907-1909 гадах. Кандыдат філасофіі. З 1909 годзе ксёндз Францішак Грынкевіч распачаў душпастарскую дзейнасць вікарыем гарадзенскай Фары і Бернардзінскага касцёла. З 1910 года ён - прэфект прыватных і прафесійных школаў у Гародні, а з 1911-га - капелан Брыгідскага касцёла.

Адпаведна А.Станкевічу, беларуская нацыянальная думка пачынае выяўляцца ў маладога Грынкевіча яшчэ ў Вільні, чаму нямала паспрыяла Таварыства клерыкаў-літоўцаў. У Пецярбурзе ён ужо паказаў сабе свядомым беларусам, нават на адной са студэнцкіх сходак выступіў з рэфератам, прысвечаным беларускаму адраджэнцкаму руху. Будучы ў Інсбруку і Мюнхене разам з ксяндзамі А.Лісоўскім і Г.Саланкам, Францішак Грынкевіч стварыў невялічкі беларускі гурток, які на чужыне развіваў беларускую думку. Ужо тады Францішак Грынкевіч падтрымліваў сувязі з Іванам Луцкевічам. Пасля вяртання з замежжа ўвосень 1909 года ксёндз Францішак Грынкевіч пачынае беларускую асветніцкую дзейнасць сярод мясцовай моладзі, адразу выявіўшы сабе як добры арганізатар.

З дзеячаў беларускага каталіцкага руху, звязаных у той час з Гародняй, варта ўзгадаць аднаго з арганізатараў БХД, сябра Рады БНР, старшыню Цэнтральнай управы Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, сябра Беларускага нацыянальнага Цэнтра і Галоўнай рады Беларускай народнай самапомачы (а тады 18-гадовага юнака) **Вінцэнта Гадлеўскага**, які ў 1906 годзе экстэрнам здаў іспыты ў мясцовай гімназіі. Нарадзіўся ў Гародні, хадзіў у гімназію, а пазней, праз кароткі час служыў пры касцёле **Уладзіслаў Талочка**. Падчас І сусветнай вайны Уладзіслаў Талочка ствараў беларускія школы, выступаў за беларусізацыю касцёла. Ён быў адным з арганізатараў у 1917 годзе каталіцкай суполкі «Золак», якая вяла беларускую патрыятычную працу сярод дзяцей, з'яўляўся сябрам Рады БНР. Гарадзенцам цікава будзе даведацца і пра тое, што ксёндз Уладзіслаў Талочка з`яўляўся сябрам вядомага мясцовага гісторыка Ю.Ядкоўскага. Разам з Талочкам, прыкладна ў 1910 годзе, на абедзе ў Францішканскім касцёле ў ксяндза Баярунца (**гл. папярэдні нумар ПАГОНІ ад 1 лістапада**) не раз засядаў і **Станкевіч**, які тады быў у Гародні клерыкам. Прыкладна тады ж у Гародні вікарыямі служылі ксяндзы - беларусы **Радзько і Бароўка**, якія выступалі за беларускамоўную адукацыю беларусаў, у чым іх падтрымліваў тагачасны дыякан ксёндз Элерт.

Створаны пад кіраўніцтвам Францішка Грынкевіча беларускі гурток хутчэй нагадваў зямляцтва, аб'яднаўшы ў асноўным выхадцаў з Сакольшчыны. Айцец Францішак адным з першых перадаў у фонд бібліятэкі гуртка кнігі са сваіх уласных збораў, сярод якіх быў твор «Люд беларускі» М.Федароўскага. Прымае ён актыўны ўдзел і непасрэдна ў дзейнасці гуртка. Так, увесну 1910 года ксёндз Францішак Грынкевіч разам з А.Бычкоўскім і З.Верас ездзіў дамаўляцца наконт правядзення беларускай вечарыны ў маёнтку Крыштапарова. Трэба памятаць, аднак, што для ксяндза Францішка Грынкевіча галоўным у ягонай дзейнасці было ўмацаванне хрысціянства, тады як беларуская нацыянальная ідэя, як і ўсякая іншая, у ягоным разуменні самамэтай быць не магла і напраўду не была.

Апроч самаго Францішка Грынкевіча, да беларускага гуртка мелі дачыненне і ягоныя малодшыя сястра з братам. **Юзя Грынкевіч** ўдзельнічала ў вечарыне гуртка ў лютым 1911 года, на якой выступіла з вершам Зоські Верас «Што я люблю» і заспявала ў хоры. Сябрам Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі быў і **Станіслаў Грынкевіч**, які ў 1912-1914 гадах вучыўся ў гарадзенскай гімназіі. Пазней, падчас польска-савецкай вайны малодшы Грынкевіч прымаў удзел у Кіеўскай выправе ў 1920 годзе. У 1921 годзе ён ужо студэнт на медычным факультэце Віленскага універсітэта, аднак хутка расчараваўся і паспрабаваў пайсці па шляху старэйшага брата: кінуў медыцыну і паступіў у духоўную семінарыю. Тут яго сустрэла яшчэ большае расчараванне, магчыма, з прычыны паланізатарскага духу, які панаваў у семінарыі, і Станіслаў вяртаецца да медыцыны. Браніслаў Грабінскі, добра ведаючы абодвух братоў Грынкевічаў, узгадваў іх, як «людзей глыбока думаючых, замкнёных у сабе, схільных да містыцызму і філасофіі, з моцнай верай у сэнсе рэлігійным, затое з малым нахілам да таварыскага жыцця». У Новым Двары, адкуль былі родам Грынкевічы, іх сям'ю называлі «поцемкамі», што азначала людзей замкнёных, трохі дзікаватых. У гады другой сусветнай вайны Станіслаў Грынкевіч працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, быў старшынём Беларускага навуковага таварыства, займаўся беларускай культурніцкай дзейнасцю. У 1944 годзе брат Францішка Грынкевіча быў арыштаваны, а вясною 1945 года трыбуналам Беларуска-Літоўскай ваеннай акругі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны ў Магілёве.



Францішак Грынкевіч з бацькамі, сястрой Юзяй і братам Станіславам

Фактычна айцец Францішак патранаваў гарадзенскі гурток беларускай моладзі ўсяго два гады. Паводле Зоські Верас, ужо ў пачатку 1912 года ксёндз Францішак Грынкевіч адыходзіць ад гуртка. Справа, відаць, была не толькі ў націску з боку духоўнага начальства. Хутчэй, Францішак Грынкевіч да гэтай працы быў ужо «астылы». Аднак нельга казаць, што ён пакінуў цікавіцца беларускай справай наогул! Францішак Грынкевіч і далей прасоўваў беларускую асвету, але слабей і асцярожней. У 1913-1915 гадах ён супрацоўнічае з беларускай каталіцкай газетай «Bielarus», дапамагаючы ёй матэрыяльна, піша сам у гэтую газету і прапануе пісаць таго ж ксяндза Уладзіслава Талочку, прымае ўдзел у выданні першага беларускага каталіцкага малітоўніка «Бог з намі».

У час першай нямецкай акупацыі айцец Францішак актыўна ўдзельнічае ў мясцовым польскім руху. Ён адчыняе ў Гародні польскую школу, з'яўляецца сябрам гарадзенскага аддзела Польскай мацежы школьнай, выкладае на польскіх настаўніцкіх курсах, садзейнічае арганізацыі першай у Гародні польскай скаўцкай дружыны імя Стэфана Баторыя. Падчас панавання ў Гародні летам 1920 года бальшавікоў ён вымушаны быў хавацца ад арышту. Пасля паўторнага заняцця Гародні польскімі войскамі ў верасні 1920 года Францішак Грынкевіч разам з палявым капеланам правёў першую службу ў мясцовым касцёле.

Гэткая ягоная актыўнасць на польскім грунце адштурхнула ад ксяндза шмат каго з беларусаў. Трапіўшы ў Гародню напрыканцы 1918 года А.Луцкевіч з непрыхаваным расчараваннем адзначыў у сваім дзённіку: «Ксёндз Грынкевіч заядлым палякам стаўся, і ўсю злосць сваю да беларусаў тлумачыць тым, што яны сацыялісты». Магчыма, на самой справе леварадыкальны ўхіл беларускага нацыянальнага руху паўплываў на стаўленне да яго Францішка Грынкевіча. Верагодна, ён пабачыў, як з нацыянальнага, асветніцкага, запаленага некалькі год таму ў сценах Бернардзінскага касцёла агеньчыка, раптам шуганула полымя, пагражаючы праглынуць тое, што было для яго вышэй за нацыянальную ідэю. Аднак ёсць і іншая прычына гэткіх паводзінаў былога прыхільніка беларускасці. Той жа А.Луцкевіч узгадвае пра рэлігійныя сваркі сярод гарадзенскіх беларусаў, што ў нейкай ступені тлумачыць, чаму ксёндз Грынкевіч адчуваў сабе чужым сярод беларускіх палітыкаў. Праўда, подпіс ксяндза Францішка Грынкевіча, як сябра Гарадзенскай беларускай управы, стаіць пад пратаколам пасяджэння камітэта па скліканню Краёвага беларускага з'езда Гарадзеншчыны. Застаецца пакуль незразумелым, што звязвала каталіцкага ксяндза з установай, беларускай толькі па назве, да якой належалі праваслаўныя святары і былыя расейскія чыноўнікі.

Наогул беларускі нацыянальны рух і каталіцкі касцёл у Гародні у міжваенны час існуюць, за нявялікім выключэннем, амаль не сутыкаючыся адзін з адным. На жнівень 1925 года ў Гародні заставаўся толькі адзін ксёндз-беларус, прэфект **Томаш Калінскі** з кляштара назарэцянак, аднак нават паліцыя лічыла яго лаяльным да Польскай дзяржавы, адзначаючы, што ксёндз карыстаецца вялікім даверам сярод мясцовага насельніцтва. Акрамя гэтага, у паліцэйскіх рапартах у сувязі з беларускім нацыянальным рухам узгадваўся толькі **ксёндз Леаш** з вёскі Пералом Гожскай гміны, які выпісваў беларускія віленскія газеты.

Трапіў на старонкі паліцэйскіх рапартаў і Францішак Грынкевіч. Адпаведна «Komunikatu defenzywy», за красавік 1921 года прэфект польскай гімназіі ксёндз Францішак Грынкевіч казаў дзецям, што толькі «часова яны павінны вучыцца па-польску, аднак з'яўляюцца беларусамі». Ён працягваў цікавіцца беларускай справай і пазней, чытаў беларускую літаратуру і падтрымліваў стасункі з некаторымі беларускімі дзеячамі. У 1930 годзе айцец Францішак быў прызначаны пробашчам парафіі ў Гожы, а з 1932 года - рэктарам касцёла і капеланам назарэцянак у Гародні. Памёр ён 26 ліпеня 1933 года ў Косаве і пахаваны на старых каталіцкіх могілках у Гародні.

*«Рэвалюцыя і вайна,* - **піша Адам Станкевіч,** *- а ў іх выніку ўваскрашэнне Польшчы, стварылі цалкам новыя ўмовы і новыя заданні беларускай справе, да якіх дастасавацца і сярод якіх актыўна працаваць кс.Ф.Грынкевіч ужо не здолеў, бо з'явіўся факт змагання з палякамі, а яны ж яшчэ ўчарашнія яго саюзнікі. Пры тым трэба сцвердзіць, што ён не цалкам яшчэ ў сваёй нацыянальнай свядомасці быў вызваленым з польскай стыхіі. Нейкія духоўныя ніці злучалі ягонае беларускае сэрца з пальшчызнай і балела яму, калі іх ірвалі беларусы. І ён сваю працу спыніў. Перадваенная ж яго беларуская праца - гэта прыгожае бачанне ў гісторыі беларускага культурнага адраджэння, запісанае беларускім каталіцкім ксяндзом, а змест якога хрысціянскі і беларускі народніцкі».*

**Андрэй Чарнякевіч,**
**кандыдат гістарычных навук**

Аўтар выказвае падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы артыкула Янку Траццяку

# РЭКЛАМА Тэлефоны: (0152) 72-29-96, 72-37-14, 72-35-61




## ПРАДАЮ

### ТРАНСПАРТНЫЯ СРОДКІ, ЗАПЧАСТКІ, ГАРАЖЫ

✓«ВАЗ-2101» 1978 г.вып. (можна на запчасткі). Кошт - 300 у.а. Магчымы гандаль. Тэл. 2-88-41.

✓«Масквіч-2140» на запчасткі, гараж з падвалам у раёне в.Панямунь. Нядорага. Тэл. прац. 44-10-71, хатні 6-60-61.

✓«Масквіч-412» на запчасткі. Тэл. 5-93-67.

✓ Выхлапную трубу да а/м «Масквіч-412». Тэл. 74-37-16.

✓«Масквіч-Комбі» на запчасткі. Тэл. 5-38-44.

✓ «Renault-21» 1.7Б, 1990 г.вып. (на запчасткі). Тэл. у Слоніме: (8-029) 642-60-01.

✓Запчасткі (б/у) да а/м «Mazda-626» 85-87 г.вып., рухавік да а/м «Toyota-Korola» 1.4б 84 г.вып. Тэл. 33-82-74.

✓Трактар «Т-40» у добрым стане. Тэл. у Шчучыне: 2-48-08.

✓ Трактар «Т-40», радыятар, кардан «Ніва», задні мост, КПП-21, КПП-24, гараж ля «Вясёлкі». Тэл. 31-08-63.

✓ Новы аднаконны воз. Тэл. (8-214) 3-36-61.

### ІНШАЕ

✓Дачны ўчастак у раёне в.Пагараны. Тэл. 6-86-02.

✓ Новую інвалідную каляску (кошт - 280 у.а.). Тэл. 76-38-76.

✓Піяніна «Беларусь». Кошт - 75 у.а. Тэл. 44-58-72 (пасля 19.00).

✓ Піяніна. Вельмі танна. Тэл. 6-97-72.

✓Гульнёвую прыстаўку «SEGA» 16 bit (кошт - 20 у.а.), б/у, і 11 картрыджаў (па 3.500 рублёў). Тэл.-прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану), тэл.хатні 75-44-70 (пасля 19.00).

✓Медычны апарат «МАГ-30-3», з дапамогай якога вылечваецца шэраг захворванняў. Ёсць інструкцыя. Кошт апарата - 30.000 рублёў. Тэл. 6-69-65.

✓Авальнае люстра ў металічнай аправе (памер 65х40), бекешу з аўчыны (памер 50-52), пральную машыну «Рыга» на запчасткі. Усё танна. Тэл. 72-63-27.

✓Маркі Беларускай Народнай Рэспублікі: серыю з 4-х марак, прысвечаную 40-м угодкам Слуцкага збройнага чыну (1960г.) і серыю з 2-х марак да 450-х угодкаў друку ў Беларусі (1976г.). Кошт разам з дасылкай - сума ў беларускіх рублях, эквівалентная 1 даляру ЗША і 0,5 даляра ЗША адпаведна. Пісаць: 220131, г.Менск, а/с 268.



✓Маркі Літвы і Латвіі - першыя выпускі, маркі скаўт-разведвальнай пошты, аўтографы касманаўта Лявонава і кампазітара Ф.Багардзі. Тэл. (8-017) 255-52-01.

✓Кнігі: З.Пазьняк «Глёрыя Патрыя», М.Раманюк «Беларускія народныя крыжы», збор твораў Ул.Караткевіча ў 8-мі тамах ды іншыя. Вышлю каталог. Тэл. (017) 258-43-54.

✓ Эстрадны ўзмацняльнік «Гармонія-70М» з калонкамі, святламузычную ўстаноўку «Спектр», навушнікі, мікрафоны. Тэл. 6-31-68.

✓Культыватар да мотаблока, сепаратар (для малака). Тэл. 44-73-70.

Бензапілу «Тайга-245» (б/у) 2000 года выпуску. Тэл.у Шчучыне: (8-214) 3-62-29.

✓Мяккую мэблю, тумбачку пад тэлевізар, два пуфікі. Усё новае. Танна. Тэл. 31-23-27 (пасля 17.00).

✓ Новую падвесную паліцу для кніг. Тэл. 2-23-07.

✓Драўляныя вонкавыя і ўнутраныя дзверы (кошт - 40 у.а.), каляровы тэлевізар «Гарызонт-64» (б/у), Тэл. 72-90-96, 33-76-71.

✓Стол-кнігу. Тэл. 44-26-83.

✓Швачныя машыны «Орша», «Singer», аверлок, ніткі, новы дыван. Тэл. 44-66-20.

✓Пральную машыну «Мара». Танна. Тэл. 44-90-58.

✓ Новую пральную машыну «Мокша» (кошт - 50 тысяч рублёў). Тэл. 2-23-07.

✓ Фотаапарат «Зеніт» ЕТ, «Элікон», залаты ланцужок. Тэл. 31-08-95.

✓Фотаапарат «Minolta-7000AP», батарэйкі для відэакамеры «Sony», узмацняльнік «Вега», 2-касетную дэку «Pioneer». Усё б/у, нядорага. Тэл. у Шчучыне: (8-214) 2-60-97.

✓Бінокль (8х40), б/у. Кошт - 15 тысяч рублёў. Звяртацца па тэлефоне ў Дзятлаве: (8-263) 3-06-90 (запрасіць Жэню).

✓ Стол-кнігу, тры секцыі для кніг, жаночае дэмісезоннае паліто 46-га памеру, лакавыя чаравікі 36-га памеру. Тэл. 44-45-16.

✓ Ванну (б/у), газавую пліту, пральную машыну (б/у). Тэл. 31-79-49, 33-12-92.

✓Зімовае паліто цагельнага колеру з норкавым каўняром і новай падбіўкай (п.48-50, рост 170). Нядорага. Тэл. 6-69-65.



✓Штучнае футра. Тэл. 5-12-30 (увечары).

✓ Асеннія і зімовыя жаночыя боты (п.37-37,5), жаночае дэмісезоннае паліто (п.46-48), мужчынскія плашчы (п.46-52), мужчынскія касцюмы (б/у, у добрым стане, 48-га памеру, рост 176,188). Усё танна. Тэл. 33-79-95.

✓ Бегавыя лыжы «Фішар» у камплекце (п.41), тачыльны станок на два наждакі, настольны свідравальны станок НСС-2, паляўнічыя набоі 16 калібру (ад 0 да 6); чорныя афіцэрскія паўшубкі (п.54/3). Тэл. 5-32-39.

✓ Рассоўны кухонны стол; 2-створкавую паліраваную шафу карычневага колеру (б/у). Усё ў добрым стане. Тэл. 6-69-65 (у любы час).

✓Каляровы лямпавы тэлевізар на запчасткі, кампакт да унітаза, плоскія батарэі (б/у). Тэл. 72-89-29.

✓Новыя вагі для немаўлятаў, абліцовачную плітку (15х15), 1-спальны і 1,5-спальны сеннікі з наматрацнікамі, а таксама 1,5-спальную тахту, дзіцячы ложак, дошку для прасавання, ракавіну блакітнага колеру для ванны. Тэл. 44-48-22, 5-46-82 (запрасіць Раісу Васільеўну).

✓Жывапісныя карціны, можна пад заказ. Тэл. у Ваўкавыску: 2-29-23.

✓ Бутлі ёмістасцю 3 і 20 літраў (з коркам), эмаліраваную ракавіну белага колеру (б/у, танна), «Энцыклапедыю сельскага гаспадара». Тэл. 47-06-87.

✓Мяккую мэблю «Пінскдрэў»: канапу і два фатэлі (б/у 1,5 года). Кошт - 220 у.а. Тэл. 2-28-89.

✓Ложак для падлеткаў, пральную машыну «Волга». Усё б/у. Тэл. 31-86-45 (пасля 18.00).

✓Усё з «макрамэ», кампазіцыі са штучных кветак (падбяру і прыгожа аформлю падарунак). Тэл. 75-36-29.

✓Шчанюкоў рускага чорнага тэр'ера з выдатным радаводам па лініі чэмпіёна свету. Тэл. у г.п.Рось: (01-512) 3-19-88.

✓ Паштовы канверт з лістом, прысвечаным запуску «Apollo-15», гашаны штэмпелем карабля, на якім узнімалі капсулу з астранаўтамі, канверты ААН ды іншыя. Тэл. (8-017) 255-52-01.

✓Сіямскіх кацянятаў (узрост - 1 месяц). Тэл. 72-47-18.

Шчыра віншую *Анастасію Лытневу* з 19-м днём народзінаў! Жадаю выдатных адзнакаў ва універсітэце, добрага здароўя і лёгкага жыццёвага шляху!

Алесь

## КУПЛЮ

✓Іншамарку, можна ў аварыйным стане, нядорага. Тэл. (017) 258-43-54.

✓Жыллё ў Гродне коштам да 4000 у.а. Тэл. 72-37-14 (запрасіць Алесю), (8-214) 3-61-05.

✓Жыллё коштам да 4000 у.а. Тэл. 44-36-44.

✓Слоўнікі, падручнікі беларускай і замежных моваў. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

✓Пэйджар і мабільны тэлефон. Танна. Тэл. 39-98-55 (з 19.00 да 21.00, запрасіць Дзяніса).

✓Дызельнае паліва. Тэл. 5-38-12.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

## МЯНЯЮ

✓2-пакаёвую кватэру ў Гродне на менскую ці прадаю. Тэл.74-09-19.

✓2-павярховы катэдж з усімі выгодамі, цэнтральным ацяпленнем (ёсць сад, хлеў, лазня) на 1-,2-пакаёвую кватэру ў Гродне, Оршы, Смалявічах, Барысаве або Жодзіне. Тэл. (2234) 2-43-27.

✓4-пакаёвую прыватызаваную кватэру на дзве 1-пакаёвыя з даплатай. Магчымы варыянты. Тэл. 5-12-30.

## ПАСЛУГІ

✓ Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, ДК, тэлетэксту. Ліц.N1243, выдадзеная Міністэрствам прамысловасці РБ да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

✓ Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па метадыцы Р.Фоля. Ліц.МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

✓Распілоўка лесу. Піламатэрыялы пад заказ. Ліц.N003039, выдадзеная Міністэрствам лясной гаспадаркі да 11.05.2005 года. Тэл. 6-63-85; 5-89-04; 2-55-94.

✓ Дапамагу студэнтам тэхнікумаў і ВНУ ў выкананні курсавых работаў, праектаў, задачаў па будаўнічай і тэарэтычнай механіцы, супраціўленню матэрыялаў і любых будаўнічых канструкцыях. Тэл. 72-16-55.

Рамонт кампутараў, маніtoраў, прынтараў, UPS, аргтэхнікі. Безнаяўны разлік. Ліц. N2004, выдадзеная Міністэрствам прамысловасці РБ да 2006. Тэл. 72-16-47, 76-04-53.

✓Рэпетытарства, кантрольныя работы па матэматыцы і фізіцы. Тэл. 44-26-83.

✓Ангельская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 74-32-77.

✓Ангельская мова: кантрольныя работы, рэпетытарства, пераклады. Тэл. 31-52-62.

✓Ангельская мова: репетытарства, кантрольныя работы. Тэл. 44-55-72 (запрасіць Вольгу).

✓Ангельская мова: рэпетытарства Тэл. 6-38-04 (запрасіць Наталлю).

Гранітныя помнікі. Разнастайныя формы. Мастацкае аздабленне. Чыгунныя літыя крыжы. Танна. Тэл. 6-66-64, 6-92-66.

✓ Дапамагу па французскай мове. Тэл. 71-14-56.

✓Выконваю пераклады з рускай на польскую і з польскай на рускую мову. Тэл. 44-66-20.

✓Дапамагу па біялогіі ды хіміі. Тэл. 78-16-81.

✓Дапамагу па хіміі (кантрольныя, рэпетытарства). Тэл. 72-94-02.

✓Беларуская, ангельская, балгарская, польская мовы. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

✓ Рэпетытарства (школьны курс), акрамя моваў. Тэл. 72-00-23 (пасля 17.00, вахцёр) і 44-34-79 (запрасіць Наталлю).

✓Дапамагу студэнтам-завочнікам зрабіць гербарый. Тэл. 2-19-83.

✓ Класічная гітара. Урокі дасканалага грання на аснове элементарнай тэорыі музыкі ды законаў музыкальнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

## РОЗНАЕ

✓Маю патрэбу ў паслугах рэпетытара па ангельскай мове. Тэл. 31-41-29 (запрасіць Алеся).

✓ Выпускнікоў заатэхнічнага факультэта ГрАУ і біяфака ГрДзУ імя Я.Купалы, якія прайшлі вайсковую службу, запрашаем на навуковую працу. Даведкі па тэл. 33-56-71.

✓ «Школа маладога паэта». Заняткі кожны чацвер у 18.00. Звяртацца ў ГА «Ратуша» па вуліцы Будзёнага,48-а.

✓ Аўдыёкасеты беларускай класікі, рок-, поп-, фольк-музыкі, відэакасеты на беларускай мове. Інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне ў Дзятлаве: 2-20-53 (запрасіць Жэню), альбо ў Шчучыне (8-214) 2-57-57 (запрасіць Васіля Бязмена).

✓Збіраю любую інфармацыю пра антыкварыят. Тэл. 31-25-35 (аб.12196).

✓Шукаю працу на прадпрыемстве (0,5 стаўкі) электрыка, энергетыка. Дапамагу па энергазберажэнню. Тэл. 5-92-07 (пасля 18.30, запрасіць Васіля).

✓Усе фанаты «The Prodigy» - тэлефануйце. Тэл. у Шчучыне: (8-214) 2-52-44.

✓Калі вы маеце патрэбу ў тым, каб у вашай сям'і запанавалі згода і шчасце, калі вам патрэбныя адрасы экстрасэнсаў, пішыце: 231600, Гарадзенская вобласць, г.Масты, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/д НБ N3396414.

✓ Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне па вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Час працы: кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00. Звяртацца на нумары тэл. (8-029) 602-98-86 (Андрэй).

✓Грамадскае аб'яднанне абароны жывёлаў «Дабрыня» звяртаецца да ўсіх спагадлівых людзей з просьбай аказаць дабрачынную дапамогу для стварэння прытулка ў г.Гродна для ўтрымання і лячэння бяздомных жывёлаў. Наш разліковы рахунак 3015016290011 ААТ БелПББ, г.Гродна, МФО 335 (паштовым пераводам).

✓Прашу дапамагчы мне і маім дзецям. Наш адрас: 211910, Віцебская вобласць, пасёлак Шаркаўшчына, вул.Горкага, 4-13.

**Шаноўнае спадарства!**

**Грамадскае аб'яднанне «Цэнтр «Трэці сектар» запрашае Вас узяць удзел у асветніцкім праекце «Школа маладога журналіста-6».**

**У межах праекту Вас чакаюць сустрэчы з вядомымі журналістамі, знаёмства з працай рэдакцыяў гарадзенскіх сродкаў масавай інфармацыі ды асновамі журналістыкі. Запрашаем да ўдзелу ў праекце юнакоў і дзяўчатаў ва ўзросце ад 16 да 22 год.**

**Заявы можна запоўніць па адрасе: вуліца Будзёнага,48а-11 з 12 да 16 гадзін (акрамя суботы і нядзелі) да 16 лістапада ўключна. Дадатковая інфармацыя - па тэлефоне 96-74-78 (з 12.00 да 16.00).**

✓ Усіх, хто мае інфармацыю пра эскадрыллю «Нармандыя-Нёман», просім адгукнуцца на нумар тэл. 72-65-65.

✓ Просьба да ахвотных перапісаць CD «Я нарадзіўся тут... Фотаальбом», CDZet «З Новым годам» - тэлефануйце на нумар 31-20-84.

✓Шукаю партнёраў у бізнесе. Тэл. 33-92-13 (з 8.00 да 10.00).

✓Дапамагу ў выкананні тынкавальных работаў. Тэл. у Ваўкавыску 4-33-20 (запрасіць Пятра).

✓ Шукаю працу тынкоўшчыка на прадпрыемстве. Тэл. 31-03-49.

✓Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы час).

✓Калі ў вас добрае сэрца, ёсць нейкія сродкі ды цёплы куточак, каб заапекавацца бяздомным кацянём, патэлефануйце на нумар 44-01-27 (запрасіце Дануту).

✓Аддам прыгожае кацянятка ў добрыя рукі. Тэл. 33-65-75.

✓Бясплатна аддам дахоўку і кафлю. Тэл. 2-27-52 (пасля 20.00).

✓Землякі! Браты і сёстры! Хто жадае дапамагчы ў рэалізацыі самага карыснага для Беларусі праекта (стварэнне Брацтваў), пішыце, калі ласка, на e-mail (barkanus@yahoo.com). Будзем удзячныя за любую дапамогу.

✓ Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-40.

✓ Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

## ЗДЫМУ

✓Кватэру на працяглы тэрмін. Тэл. 78-38-93.

✓1-, 2-пакаёвую кватэру. Тэл. (8-214) 3-61-05 (пасля 19.00), тэл. 72-37-14 (запрасіць Алесю).

✓ 1-пакаёвую кватэру на першым паверсе пад кабінет. Нядорага. Тэл. 39-96-76 (да 9.00 і з 21.00).

✓Кватэру з тэлефонам не даражэй за 50 у.а. на працяглы тэрмін. Тэл. 6-67-65.

✓1-пакаёвую кватэру на год. Тэрмінова. Тэл. у Мастах: (8-215) 2-16-90.

## ЗНАЁМСТВЫ

✓ Мужчына, 34/171, пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносінаў. Чакаю лісты на адрас: 230029, Гродна-29, да запатрабавання, п/д НБ N2455415.

## ВІНШАВАННІ

Віншуем з Днём народзінаў ***Аляксандра Суворава*** - самага мужнага, дужага і абаяльнага МЧСаўца!

**Са спадзяваннем на больш шчыльнае супрацоўніцтва,**
**Жаночая палова ПАГОНІ**

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

45 **Імя і прозвішча** ____________________

____________________

**Адрас (тэлефон)** ____________________

____________________

**Рубрыка** ____________________

**Тэкст** ____________________

____________________

____________________

____________________

**Адкажыце, калі ласка, на пытанні нашай анкеты! Глядзіце адваротны бок купона.**

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

**Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11**

**Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам.**

# Сенсацыі не адбылося

## «Нёман» без медалёў



Не дацягнулі...

**Чэмпіянат Беларусі. Апошні тур.**

Шахцёр - Нёман-Белкард - 4:1 (гол у «Нёмана» забіў Сяргей Давыдаў)
Дынама Мн - БАТЭ - 2:0
Гомель - Белшына - 2:2
Славія - Ведрыч-97 - 6:3
Нафтан - Лакаматыў-96 - 2:1
Дынама Бр - Тарпеда-МАЗ - 1:3
Маладзечна-2000 - Днепр-Трансмаш - 2:1

**Выніковая табліца**

| | | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Белшына | 26 | 17 | 5 | 4 | 43-19 | 56 |
| 2 | Дынама Менск | 26 | 16 | 5 | 5 | 52-21 | 53 |
| 3 | БАТЭ | 26 | 16 | 3 | 7 | 54-31 | 51 |
| 4 | Нёман-Белкард | 26 | 14 | 8 | 4 | 44-20 | 50 |
| 5 | Шахцёр | 26 | 13 | 7 | 6 | 43-24 | 46 |
| 6 | Славія | 26 | 13 | 5 | 8 | 49-27 | 44 |
| 7 | Гомель | 26 | 12 | 6 | 8 | 35-24 | 42 |
| 8 | Тарпеда-МАЗ | 26 | 10 | 7 | 9 | 31-32 | 37 |
| 9 | Днепр-Трансмаш | 26 | 8 | 7 | 11 | 29-37 | 31 |
| 10 | Маладзечна-2000 | 26 | 8 | 5 | 13 | 23-47 | 29 |
| 11 | Дынама Брэст | 26 | 8 | 5 | 13 | 26-38 | 29 |
| 12 | Лакаматыў-96 | 26 | 4 | 7 | 15 | 18-51 | 19 |
| *13* | *Нафтан* | *26* | *4* | *2* | *20* | *18-51* | *14* |
| *14* | *Ведрыч-97* | *26* | *2* | *2* | *22* | *17-60* | *8* |

## Пераможныя шайбы Лантратава

Паступова набіраюць ход хакеісты гарадзенскага «Нёмана».

Каманда Анатоля Варывончыка ў межах чэмпіянату краіны ў дзвюх сустрэчах запар заваявала максімальную колькасць ачкоў - шэсць. Такога з «Нёманам» у гэтым сезоне яшчэ не здаралася.

Калі хатняя перамога над «Віцебскам» (4:3) была прадказальнай, то менская перамога над моцным «Керамінам» (4:1), атрыманая гарадзенцамі ў панядзелак, - добрая нечаканасць.

У сустрэчы менчукамі пераможны гол - на рахунку Сяргея Лантратава, які ён забіў у сярэдзіне гульні. Першую шайбу ў гарадзенцаў закінуў Юрый Чух, трэцюю і чацвёртую - Вячаслаў Лісічкін і Аляксандр Пстыга.

Сваю пераможную серыю ў нацыянальным першынстве «Нёман» можа працягнуць заўтра, калі на сваім лёдзе сустрэнецца з наваполацкім «Палімірам». Пачатак гульні ў 18.30.

## У Гродне ХІК не хіхікаў

**Кубак ЕКВ, першы кваліфікацыйны раунд. Першы матч. «Камунальнік» (Гродна) - «ХІК» (Данія) - 3:0 (25:14, 25:17, 25:19).**

**Камунальнік: Азімка (капітан), Мікановіч, Венскі, Ахрэм, Міклашэвіч, Бекша, Папай, Буцько.**

Выдатныя дзеянні нашых валейбалістаў у абароне, розныбаковыя атакі паставілі прадстаўнікоў Дацкага каралеўства ў тупік. А звышхуткасныя падачы Святаслава Міклашэвіча ўвогуле ўсчынялі пярэпалах у стане суперніка.

Усе гэтыя фактары хутка адлюстраваліся на табло. Перавага «Камунальніка» была адчувальнай.

Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла і гарадзенская моладзь - Алег Ахрэм і Аляксандр Буцько, дзеянні якіх уразілі сваёй сталасцю. 18-гадовы Алег ужо зараз займае пастаяннае месца ў стартавай шасцёрцы, а 15-гадовы Аляксандр уносіць свежасць у гульню з лаўкі запасных. Для Аляксандра гэта ўвогуле быў дэбют у дарослых еўрапейскіх спаборніцтвах.

Паядынак у адказ адбудзецца 11 лістапада ў Ольбаргу. Аднак для таго, каб перамагчы па суме дзвюх сустрэчаў, дацкім аматарам трэба стварыць цуд.

Пераможца гэтай пары ў другім кваліфікацыйным раундзе з 7-га па 9-е снежня ў гішпанскай Малазе ў групавым турніры сустрэнецца з гаспадарамі - «Тэлекамам», галандскім «Аэсельдам», бельгійскім «Амберам».

## Ведай нашых барцоў!

**Першае, другое і два трэція месцы прывезлі гарадзенскія прадстаўнікі грэка-рымскай барацьбы з Міжнароднага турніру ў памяць Героя Савецкага Саюза Т.Барадзіна. Удзел у ім бралі спартоўцы, чый узрост не перасягаў 20 гадоў. Турнір адбыўся ў Гомелі з 2-га па 4-е лістапада.**

Адзіны медаль вышэйшай пробы ў складзе гарадзенскай каманды заваяваў Мікалай Дзікевіч (вагавая катэгорыя да 76 кілаграмаў). Сваю фінальную сустрэчу прайграў Аляксей Шайпак (да 58 кг). Дзве бронзы ўзялі Андрэй Швец (да 69 кг) і Сяргей Лукашскі (да 85 кг). Яшчэ трое прадстаўнікоў Гарадзеншчыны - па-за межамі прызёраў.

**Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі**

## Паркет набыты, коуч здаровы

**Вырашана пытанне набыцця баскетбольнага паркету для хатніх гульняў «Гродна-93». Да 26 лістапада паркет павінен прыбыць у Гродна са Швецыі.**

Паводле апошняй інфармацыі з клубу, са шпіталя выпісаўся і ўзяўся за свае абавязкі галоўны трэнер каманды Аляксандр Барысаў.

У чарговым туры нацыянальнага чэмпіянату «93-я» двойчы буйна «праэкзаменавалі» магілёўскі «Тэмп-АШВСМ» - 120:72 і 106:62.

Пасля чатырох сустрэчаў дуэт лідараў чэмпіянату складаюць «Гродна-93» і гомельскі «Спартак-Кандытар».

## «Алімпія» верне грошы капітану

**На працягу месяца гарадзенскі жаночы баскетбольны клуб «Алімпія» павінен выплаціць чатырохмесячную запазычанасць па заробку былой сваёй баскетбалістцы Святлане Гапонавай.**

Такую пастанову 31 кастрычніка вынесла суддзя Ленінскага суда нашага горада Ганна Чэлека па выніках трэцяга разгляду спаскысу экс-капітана «Алімпіі» Святланы Гапонавай да клуба.

- Справа яшчэ не завершана, - паведаміла ПАГОНІ Святлана. - Калі кіраўніцтва гарадзенскага клуба добраахвотна са мной не разлічыцца, яно зробіць гэта па прымусовай пастанове суддзі.

## Першае ачко «Гараднічанкі»

**Першым ачком абзавяліся гандбалісткі гарадзенскай «Гараднічанкі» ў Чэмпіянаце Беларусі. У сустрэчы трэцяга туру «гараднічанкі» разышліся мірам з менскай «РВАР-БДПА-2» - 29:29. У паўторнай сустрэчы падапечным Мікалая Тадарашкі не хапіла трох мячоў да нічэйнага выніку - 25:28.**

Пасля чатырох тураў з адным ачком і нулём у графе перамог у турнірнай табліцы «Гараднічанка» займае перадапошняе пятае месца.

ЗДАРОЎЕ

## Як абараніць сябе ад каросты?

**Кароста - заразнае паразітарнае захворванне скуры, узбуджальнікам якога з'яўляюцца караслівыя кляшчы. Кароста - чыста чалавечае захворванне. Эпідэміялогія каросты вызначаецца ладам жыцця і паводзінамі чалавека.**

З 1988 года ў рэспубліцы адзначаны сталы рост захворвання на каросту, у тым ліку і ў Гродне, дзе рэгістрацыя каросты перасягае агульнарэспубліканскія паказчыкі.

Каросліўыя кляшчы - паразіты, прыстасаваныя да жыцця ў тоўшчы скуры. Яны вельмі малыя па памерах і амаль не заўважныя няўзброеным вокам. Перадача ўзбуджальніка адбываецца пры цесным кантакце з заражанай паверхняй. Кляшчы пракладаюць хады ў скуры, адкладаюць там яйкі. З іх праз тры-чатыры дні выходзяць лічынкі, якія ператвараюцца праз два тыдні ў палаваспелых паразітаў. На скуры хворых на каросту размнажэнне і развіццё кляшчоў адбываецца безупынна. Увечары і ноччу кляшчы асабліва актыўныя - у гэты час самкі прагрызаюць хады і адкладаюць яйкі. Удзень жа кляшчы знаходзяцца ў стане спакою. Інкубацыйны перыяд пры заражэнні самкамі практычна адсутнічае, бо самка адразу прагрызае пад скурай ход і кладзе яйкі. Пры заражэнні лічынкамі да з'яўлення прыкметаў захворвання мінае два тыдні.

Асноўнымі скаргамі пры захворванні на каросту з'яўляецца скурны сверб, што ўзмацняецца вечарам і ўначы. Асноўныя месцы пашкоджання скуры чалавека - кісці, запясця, локці, ступні, палавыя органы мужчынаў, малочныя залозы жанчын, жывот, грудная клетка, ягадзіцы, сцёгны. Расчухі ў гэтых месцах могуць ускладняцца гнайнічковымі пашкоджаннямі, крывяністымі скурачкамі, экзэмай.

Для прафілактыкі каросты неабходна выкананне агульнагігіенічных правілаў, у тым ліку і пры наведванні лекавых установаў. У гэтых установах уведзены неабходны комплекс супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў для прафілактыкі каросты. І тым не менш кожны сам павінен дбаць пра сваё здароўе і прытрымлівацца гігіенічных нормаў.

Заражэнне каростай у стацыянарах, паліклініках можа адбыцца пры аглядзе хворага на кушэтцы, гінекалагічным крэсле, перавязачным стале, пры правядзенні фізіятэрапеўтычных працэдур, дыягнастычных даследаванняў органаў (электракардыяграмы, ультрагукавога даследавання органаў, эндаскапічнага даследавання ды іншых), пры правядзенні масажу, карыстанні бальнічнай бялізнай у стацыянары.

У мэтах папярэджання заражэння каростай пры аказанні медычнай дапамогі неабходна ведаць, што:

- пры аглядзе ўрачом, правядзенні фізіяпрацэдур, дыягнастычных даследаванняў, масажы голым участкам цела, галавою неабходна класціся на кушэтку толькі на індывідуальную сурвэтку ці ручнік, альбо бальнічную пялёнку, не былую ва ўжытку;
- перад аглядам хворага кушэтка павінна быць прадэзінфіцыяваная антысептыкам.

**Людміла Плікус,**
**загадчыца аддзялення санэпіднагляду за лекавымі ўстановамі г.Гродна Гарадзенскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі**

## Анекдот!



Пакупнік у магазіне:

- Пакажыце мне, калі ласка, сокавыціскалку.

- Выбачайце, я не надта моцная ў пантаміме.

**1. Што Вам найбольш спадабалася ў гэтым нумары ПАГОНІ?**

______________________________

______________________________

______________________________

______________________________

**2. Чаго, на Вашую думку, у нумары не хапае?**

______________________________

______________________________

______________________________

______________________________

# Шчыра дзякуем!

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл. 72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня». Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 8.11.2001 г. Замова 3 117 Наклад 6 807

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Кампутарная вёрстка: Аляксей Салей
Кампутарны набор: Ірына Салей
Рэкламны менеджэр: Ната Сакалова